Пачатак на стар. 1

# ПАСТАНОВЫ VII З'ЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

15. Трэба дбаць пра развіццё літаратурнай секцыі «Белавежа» шляхам арганізавання аўтарскіх сустрэч, большай папулярызацыі і павышэння ўзроўню выданняў ГП БГКТ і тыднёвіка «Ніва».

16. Арганізаваць чытальніцкі конкурс беларускай кніжкі.

17. Дамагацца стварэння ваяводскай камісіі селекцыі беларускай кніжкі ў бібліятэках.

18. На працягу кадэнцыі прынамсі адно пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ прысвяціць культурна-асветным справам, на якім шырока абмеркаваць праблемы, якія ўзнікаюць у гэтай галіне, і вызначыць напрамкі далейшай культурна-асветнай дзейнасці ў асяроддзі.

19. Праўленні аддзелаў БГКТ, а перш за ўсё гурткі, павінны ў гэтай кадэнцыі звярнуць асаблівую ўвагу на навучанне беларускай мовы ў сваім асяроддзі. З гэтай мэтай трэба ўтрымліваць цесны кантакт з асветнымі ўладамі.

20. Утрымаць у сіле пастановы V і VI з'езду БГКТ наконт далейшых захадаў у справе пабудовы школьнага будынка і інтэрната для Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

21. Зрабіць намаганні адносна прысяпшэння выезду адпаведнай дэлегацыі ў БССР для азнаямлення з магчымасцямі забеспячэння школ навукова-дыдактычнымі дапаможнікамі па беларускай мове.

22. Забяспечыць большыя фінансавыя сродкі на культурную працу сярод вучняў пачатковых школ і сярэдніх школ.

23. Рабіць намаганні, каб арганізаваць экскурсіі ў БССР вучняў і студэнтаў у форме абмену.

24. Зрабіць захады, каб можна было высылаць выпускнікоў беларускіх ліцэяў на навуку ў Мінск дзеля забеспячэння аматарскага руху і апрацоўкі фальклору адпаведнымі кадрамі.

25. Імкнуцца да стварэння матэрыяльных умоў для вяртаючыхся на Беласточчыну студэнтаў, якія вучацца ў пазабеластоцкіх вузах (фундаваныя стыпендыі, тэмы магістэрскіх прац, кватэры і г.д.).

26. Пры дапамозе калектыву журналістаў «Нівы» і членаў навуковага гуртка ГП зрабіць намаганні апрацавання беларуска-польскага слоўніка і падручніка беларускай мовы для дарослых. Дзеля гэтага наладзіць супрацоўніцтва з закладамі славяназнаўства ПАН і Інстытутам рускай філалогіі УВ.

27. Намеціць канкрэтную праграму працы для лектарскай групы і ўключыць яе ў сістэматычную працу БГКТ.

28. Арганізаваць святкаванне 30-ай гадавіны ўтварэння ПНР і іншых важных гадавін ПНР і БССР, якія садзейнічаюць абуджэнню і ўмацаванню пачуцця патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

29. Надалей трэба ўдасканальваць распаўсюджванне ведаў аб Савецкім Саюзе, арганізоўваць вечарыны і ўрачыстыя сходы, даклады і сустрэчы з нагоды 50-ай гадавіны ўтварэння СССР і іншых важных дзяржаўных датаў краіны Саветаў, паказваючы яе навуковыя і тэхнічныя дасягненні, ленінскую нацыянальную палітыку і ролю ва ўмацаванні міру на зямлі.

30. Арганізаваць вечары з нагоды 90-й гадавіны нараджэння Якуба Коласа.

31. Зрабіць захады адносна змены гадзін і прадаўжэння «Беларускага магазіна» ў Польскім Радыё да 30 мінут, а таксама дабіцца, каб радыёвузлы сістэматычна ўключалі праграму беларускіх перадач Польскага Радыё ў Беластоку, звярнуць увагу на ажыўленне гэтых перадач.

32. Набыць як найхутчэй аўтобус для патрэб таварыства.

33. Звярнуць асаблівую ўвагу на ўдасканальванне нашай працы, на ашчаднае і эфектыўнае выкарыстанне сродкаў на дзейнасць таварыства, на вышукоўванне найбольш адпаведных формаў і метадаў працы.

34. Дбаць аб развіцці і ўмацаванні арганізацыі БГКТ, аб сістэматычным аплочванні членскіх складчын, аб актывізацыі гурткоў і аддзелаў шляхам часцейшага абслугоўвання іх штатнымі працаўнікамі аддзелаў, ГП і актывам БГКТ.

## Шчырае дзякуй

Добра ўкладваецца супрацоўніцтва ГП БГКТ з Ваяводскім праўленнем кінаў. Спецыялісты гэтай установы пастаянна апякуюцца кінаапаратурай ГП, служаць парадай, а апошнім часам дырэкцыя ВЗК у Беластоку бясплатна перадала ГП БГКТ шыракаплёначную кінаўстаноўку. Гэты апарат створыць магчымасць дэманстрацыі кінафільмаў у клубе БГКТ у Беластоку. Прыпомнім, што запатрабаванне на кінасеансы ў гарадскім аддзеле вялікае. Неаднойчы актывісты аддзела выступалі ў ГП з такімі патрабаваннямі. Паколькі кінаўстаноўка ГП у першую чаргу абслугоўвала вёску (такое было рашэнне VI з'езду БГКТ), гарадскі аддзел быў пазбаўлены фільмаў.

Прэзідыум ГП БГКТ выказвае дырэкцыі ВЗК у Беластоку шчырую падзяку за каштоўны падарунак. (рл)

## НА НІВЕ БГКТ

## НАШЫ АГЛЯДЫ

Як штогод, пачынаем ужо зараз рыхтавацца да двух вялікіх беларускіх аглядаў: «Беларуская песня — 1973» і агляд драмгурткоў — 1973.

### БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 1973

Арганізатары: Галоўнае праўленне БГКТ і рэдакцыя «Ніва».

Суарганізатары: Аддзел культуры ВРН, ВП ЗМВ, ВЗГС, «Рух», ОСП, ВЗСП, ВЗКП, ВДК і ПДК, ВКЗЗ, ВСС «Сполэм».

Правілы конкурсу разасланы будуць аддзелам і гурткам, а таксама ўсім зацікаўленым.

Тут падаем толькі тое, што новага ў гэтым годзе будзе ў аглядах. І так — агляд 1973 будзе праходзіць пад лозунгам «50 год СССР» і будзе папулярызаваць перш за ўсё песні Савецкай Беларусі.

Будзем супольна імкнуцца, каб штораз больш і шырэй уключаліся беларускія песні ў рэпертуары калектываў не толькі беларускіх, але і польскіх.

Удзел у аглядзе могуць прыняць салісты і калектывы ад двух да чатырох асоб.

Элімінацыі ў вёсках і аддзелах павінны закончыцца ўжо да канца студзеня 1973 г.

Фінальны агляд адбудзецца ў лютым 1973 у Беластоку.

Запрашаем да шырокага ўдзелу і жадаем выйграць узнагароды.

### АГЛЯД БЕЛАРУСКІХ АМАТАРСКІХ ТЭАТРАЎ

Арганізатары і суарганізатары, як і ў конкурсе беларускай песні.

Агляд нашых драмгурткоў пройдзе таксама пад лозунгам 50-годдзя СССР, таму вельмі пажадана ставіць савецкія беларускія п'есы. Падрыхтаваць трэба да агляду адну п'есу на беларускай мове.

Элімінацыі ў аддзелах адбудуцца ў студзені і лютым 1973 года. Цэнтральны агляд ў Беластоку — ранняй вясной 1973 г.

У сезоне ў нас працуе некалькі дзесяткаў беларускіх драмгурткоў на вёсках і ў гарадах. Хочам бачыць усіх іх у аглядзе. (вл)



*Удзельнікі цэнтральнага агляду «Беларуская песня—72: Ірына Паўлючук, Аляксандра Яроцкая і Галіна Гедзіч з Гарадка.*

*Фота Цаф — П. Савіцкі*

## VII З'ЕЗД БГКТ

## АДАБРЭННЕ ДЗЕЙНАСЦІ

(СА СПРАВАЗДАЧЫ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ БГКТ)



Сёмаму з'езду нашага таварыства справаздачу Рэвізійнай камісіі БГКТ склала намеснік старшыні яе Л. Бялецкая.

«Рэвізійная камісія, — сцвярджалася ў справаздачы, — правяла кантроль статутовай дзейнасці БГКТ за трохгадовы перыяд, пачынаючы ад VI з'езду БГКТ па 30 чэрвеня 1972 г. Камісія правяла таксама тры кантролі рэалізацыі бюджэту Галоўным праўленнем БГКТ: 19 лютага 1970 г. — за 1969 г., 1—3 лютага 1971 г. — за 1970 г. і 26 студзеня 1972 г. — за 1971 г. 28—31 жніўня 1972 г. камісія правяла кантроль пратаколаў, пастаноў і рашэнняў Галоўнага праўлення. Апрача гэтага, камісія кантралявала статутова-арганізацыйную дзейнасць аддзелаў БГКТ: беластоцкага павятовага — 25 мая 1971 г., бельскага — 2 чэрвеня 1971 г., варшаўскага — 30 верасня 1971 г., гайнаўскага — 30 кастрычніка 1971 г. У выніку кантролю камісія сцвярджае, што Галоўнае праўленне БГКТ на працягу мінулых трох год праявіла шматгранную дзейнасць у галіне культурна-асветнай і статутова-арганізацыйнай працы, якую — за невялікімі хібамі ацэньвае ўвогуле пазітыўна».

У справаздачы канстатуецца, што напярэдадні VI з'езду БГКТ у маі 1969 г. наша арганізацыя складалася з 188 гурткоў, да якіх належаў 6441 член. У гадах 1971 — 1972 ва ўсіх гуртках была праведзена верыфікацыя, у выніку якой згодна са статутам было скрэслена 2068 членаў, што спынілі свой кантакт з арганізацыяй, выехалі ў іншыя мясцовасці або не аплочвалі членскіх складчын. У той жа час у БГКТ уступіла 1130 новых членаў. Аднак лік членаў за мінулае трохгоддзе паменшыўся на 832 асобы.

«Нягледзячы на памяншэнне ліку членаў, — падкрэсліваецца ў справаздачы, — праведзеную верыфікацыю трэба залічыць як пазітыўны бок працы ГП БГКТ. Дзякуючы ёй наша арганізацыя цяпер мае актуальны стан колькасці сваіх членаў. Перад новым Галоўным праўленнем і перад усімі членамі БГКТ стаіць вельмі важнае заданне — разгарнуць як найшырэйшую дзейнасць з мэтай разбудовы нашай арганізацыі.

У міжз'ездаўскі перыяд Галоўнае праўленне — як заўважаецца ў справаздачы — правільна гаспадарыла фінансавымі сродкамі. І Рэвізійная камісія ў часе кантролю рэалізацыі бюджэту ГП БГКТ за 1969, 1970 і 1971 г.г. не сцвердзіла істотных недахопаў. У той жа час таксама «адпаведныя дзяржаўныя органы правадзілі дакладны фінансавы кантроль грашовых выдаткаў, сцвярджаючы поўную правільнасць фінансавай гаспадаркі БГКТ. Аднак у выніку значнага недахопу фінансавых сродкаў у апошнім годзе «таварыства вымушана было ў пэўнай ступені абмежаваць сваю дзейнасць, у параўнанні з мінулымі гадамі, прыкладам тут можа паслужыць ліквідацыя штату працаўніка Рэгіянальнага этнаграфічнага беларускага музея ў Белавежы».

«У далейшым, — сцвердзіла камісія, — застаецца слабым аспектам дзейнасці нашай арганізацыі аплочванне членскіх складчын, хаця ў апошняе трохгоддзе зроблены ў гэтым напрамку пэўныя пазітыўныя крокі».

Побач з гэтымі цяжкасцямі і недахопамі ў працы Рэвізійная камісія сцвердзіла вялікія дасягненні ў розных галінах дзейнасці нашай арганізацыі, выказала падзяку ўсім актывістам БГКТ, ГП БГКТ, Прэзідыуму ГП БГКТ, праўленням аддзелаў БГКТ, штатным працаўнікам БГКТ і адобрыла дзейнасць уступаючага ГП БГКТ.

Пачатак на стар. 1




скай ЗСШ згуртаваўся адпаведны. Заняткі па сельскагаспадарчых прадметах вядуць у ёй выпускніца ольштынскай Вышэйшай сельскагаспадарчай школы магістр інжынер Аліна Хіліманюк і выпускнік сельскагаспадарчага аддзялення Настаўніцкай студыі ў Беластоку Канстанцін Лапінскі. Агульнаадукацыйныя прадметы выкладаюць настаўнікі пачатковай школы, якія закончылі адпаведныя аддзяленні настаўніцкіх студыяў. Сістэматычная праца і адпаведныя кваліфікацыі педагогаў даюць паказальныя вынікі ў навучанні. У ЗСШ у Дубінах было ўжо 10 выпускаў, школу закончыла звыш 200 чалавек, з іх больш 30 прац. паступіла ў сельскагаспадарчыя тэхнікумы. Многія паступілі на працу ў ГС-ы, СОП-ы, сельгасгурткі і іншыя звязаныя з сельскай гаспадаркай арганізацыі. З году ў год павялічваецца колькасць вучняў, якія пасля заканчэння школы вяртаюцца на свае гаспадаркі і становяцца перадавымі гаспадарамі і актыўнымі грамадскімі дзеячамі. Гэта Рыгор Саевіч з Навасадаў — сакратар пярвічнай партыйнай арганізацыі і маладзёжны дзеяч, Галена Кіндзюк з Пасталова, Галена Гіншт з Дубінаў і многія іншыя.

Школа ўзбройвае сваіх выхаванкаў грунтоўнымі сельскагаспадарчымі і агульнаадукацыйнымі ведамі. І гэта не толькі за школьнай партай. На вопытным участку вучні практыкуюцца ў вырошчванні самых высокіх ураджаяў на слабой, тыповай для Гайнаўшчыны зямлі V—VI класа. І вынікі ёсць: у гэтым годзе бульба паказала звыш 500 ц з га, а пшаніца 22 ц з га. Штогод разводзіцца расада капусты, памідораў і цыбулі. Яе высаджваюць вучні ў сваіх агародах і распаўсюджваюць сярод сялян навакольных сёлаў. На будучую вясну школа збіраецца закласці парнік на 60 вокан, скрынкі зробіць моладзь, а вокны паставіць спулдзельня «Вітаміна» з Бельска. Школа таксама заказвае ў племянных гаспадарках і пастаўляе сваім вучням на гадоўлю парасят, цялушак, авечак. Іх догляд ва ўласнай гаспадарцы — добрая практыка для школьнікаў.



*ЗСШ і пачатковая школа ў Дубінах.*

Апрача гэтага, вучні з ЗША у Дубінах праходзяць вытворчую практыку ў лепшых гаспадароў у навакольных сёлах, у сельскагаспадарчым кааператыве ў Бельшчыне, у сельгасгуртках і кожны клас штогод выязджае на два тыдні працаваць у ПГР-ах Галдапскага і Алецкага паветаў. Там моладзь знаёміцца з кааператыўнымі і прамысловымі формамі сельскай гаспадаркі.

Дырэкцыя і настаўніцкі калектыў школы дбае таксама і аб адпаведным адпачынку сваіх выхаванкаў. Амаль штогод арганізуюцца экскурсіі ў розныя рэгіёны нашага краю. Пры гэтым яны плануюцца так, каб вучні маглі наведаць сельскагаспадарчыя інстытуты, вопытныя станцыі або перадавыя сельскія гаспадаркі. Школьнікі ўжо пабывалі ва Урсусе, Пулавах, ВСШ у Ольштыне, Шэпетове, Дайлідах і г.д. А ў сябе ў школе арганізуюць вечарынкі, удзельнічаюць у светліцовым калектыве, супрацоўнічаюць з мясцовым гуртком ЗМВ.

А ў планах дырэктара школы Я. Гарустовіча далейшая разбудова ЗСШ: дабудова адной вялікай залы для біялагічна-сельскагаспадарчага кабінета і расшырэнне вопытнага прышкольнага ўчастка. Мы не сумняваемся, што і гэтыя намеры ён паспяхова здзейсніць.

*Мікалай Гайдук*

*Фота — Я. Цялушэцкі*



*Настаўніцкі калектыў ЗСШ у Дубінах старанна рыхтуецца да заняткаў у школьнай бібліятэцы. Злева направа: Ольга Шкляруk, Ядвіга Дударонак і Тамара Барада.*



*Фотарэпарцёр застаў вучняў II класа ЗСШ у Дубінах на занятках у памяшканні аднаго з класаў пачатковай школы. Але парты і дэкарацыі для маленькіх не памяншаюць глыбіні ведаў будучых кваліфікаваных гаспадыняў.*

## ТАК БЫВАЕ...

# Лёс недарэчны

На скраю вёскі, званай Кошкі, па-суседску з рэйкамі чыгункі стаіць нічым не выдзяляючаяся сялянская хата Плішкаў з прасторным панадворкам, на якім можна ўбачыць пажылую жанчыну без нагі. Абапіраецца яна на кастылі.

Падчас вайны асколак скалечыў ёй нагу. Нага, праўда, хутка зажыла, і, хаця пазней час ад часу адчувалася нейкая тупая боль, але магчыма, не было б патрэбы ампутацыі, каб не было столькі цяжкіх перажыванняў, няшчасця.

Пяць год таму назад у Плішкаў захварэў на ныркі іх сын, Мікалай Плішко. Год часу ляжаў у шпіталі. Не ўдалося лекарам выратаваць яго ад смерці. А калі ў мірны час у чалавека 19 год ад роду абрываецца жыццё — гэта страшна.

Яшчэ больш страшна, яшчэ больш балюча перажылі Плішкі смерць другога свайго дарослага дзіцяці, дачкі Валі. А было гэта так. Валю пачаў наведваць Уладзімір Герасімюк з Дубяжына. Абое маладыя, 18-гадовыя, абое неразважлівыя. Закахаліся, даверыліся, планавалі пажаніцца. Але на перашкодзе стаяла яго матка. Тая самая матка, якая ў мінулым выйшла замуж таксама за маладога хлопца, бацьку Уладзіміра Герасімюка. Валя была ўжо цяжарная, у шостым месяцы, а Герасімючыха настойліва дамагалася ліквідаваць цяжарнасць, не лічачыся ні з чым, у тым ліку і з высокімі выдаткамі. А аб вясельных выдатках яна і не думала. — Даб'юся свайго, — вырашыла. Запэўніўшы бельскаму доктару высокую суму грошай, угаварыла Валю зрабіць аборт. Маладая, нявопытная дзяўчына баялася, але згадзілася. Доктар — захланны на грошы, зусім не гінеколаг, парушаючы ўсе маральныя лекарскія правы пісаныя і няпісаныя, прыступіў да гэтага зусім не гарантуючага поспеху аборту. І не вытрымала Валя, памерла, звязаная за рукі і ногі на доктарскім прыватным стале. Зразумела, што за гэтае злачынства доктара засудзілі і адабралі правы лячэння. Але ніякія кары не вярнулі жыцця Валі — прыгажуні на ўсю ваколіцу, не маглі супакоіць матку, якая, не агорыўшы яшчэ смерць сына, атрымала яшчэ большы, яшчэ страшнейшы ўдар.

Хутка на яе раненай назе адкрылася рана, пачала псавацца косць, і неабходна было ампутаваць нагу.

*Міхась Хмялеўскі*

## ЛУЖАНСКАЯ ВУЛІЦА

У Лужанах працуе адна са старэйшых спулдзельняў прадукцыйных. Уязджаючы ў вёску, мінаем гаспадарчыя забудовы спулдзельцаў. Імпануюць яны сваім выглядам. І хаты ў вёсцы нябрыдкія. А вось вуліца — брыдкая, як рэдка дзе. Праўду кажучы, не вуліца гэта, а размешанае трактарамі балота. Загразла і наша машына на гэтай спулдзельчай вуліцы. Гляджу і дзіву даюся, як людзі могуць хадзіць па такой вуліцы, і яшчэ больш дзівуюся, як тутэйшыя людзі могуць сцярпець у сябе такую вуліцу! Вялікі сорам лужанскім спулдзельцам прыносіць іхняя вуліца. Гэта скажа кожны, хто гэтую вуліцу ў Лужанах убачыць. (вл)

## Беларуская літаратура

Аляксандр Барышэўскі

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ЧАСТКА І

Прозвішча, ідэі, дзейнасць Кастуся Каліноўскага — бадай што найпрыгажэйшай постаці ў беларускім руху XIX ст. — выклікаюць асаблівую эмоцыю ў нас, у беларусаў Беласточчыны. Прычына гэтай эмацыянальнасці ў тым, што Каліноўскі вырас на нашай зямлі, марыў аб яе свабодзе, ваяваў за яе і за яе загінуў.

Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі 21 студзеня 1838 года ў вёсцы Мастаўляны каля Ялоўкі. Бацька Кастуся быў мясцовым памешчыкам. Цікавіўся ткацтвам. Збудаваў нават тэкстыльную фабрыку, якую пасля перанёс у новы маёнтак, Якутоўку над Свіслаччу.

Вось у гэтых дзвюх беларускіх вёсках, у Мастаўлянах і Якутоўцы, прайшлі дзіцячыя гады Кастуся Каліноўскага. Тут вывучыў ён беларускую мову і тут пазнаёміўся з нядоляй беларускай вёскі. Пачынаючы з 1846 года па 1855 год Каліноўскі вучыўся ў Свіслачанскай гімназіі. На гэты перыяд прыпадае паглыбленне ведаў аб жыцці, аб страшэнных грамадскіх кантрастах, аб паншчыне, якая дайшла да свайго апагея і спіхнула селяніна на дно нэндзы. Высокія ідэалы афіцыйнай дзяржаўнай навукі, дурман царскага культу, пустая фразеалогія памешчыцтва — усё гэта ў словах народнае, а ў істоце варожае сялянскім элементарным інтарэсам не магло не кідацца ў вочы дапытліваму юнаму Кастусю Каліноўскаму. Чым больш становяцца гаворкімі пануючыя класы, чым часцей паяўляюцца ў іх выказваннях фразы аб праўдзе, альтруізме, спачуванні, тым больш у сапраўдных пачуццях гэтых класаў і ў іх паступках эгаізму, маны, ашуканства. Зразумела, што народныя масы ў такой сітуацыі сваёй інтуіцыяй дасканала адчуваюць крывадушлівасць пануючых. Такой была сітуацыя ў палове XIX стагоддзя.

Малады Каліноўскі, калі і не ўмеў яшчэ дыялектычна аналізаваць існуючую сітуацыю, дык інтуіцыйна разумеў, што царска-памешчыцкая машына дзейнічае ў напрамку паглыблення сялянскай нядолі. Хто ведае, ці не самаўладства памешчыцтва і розгул царскага чыноўніцтва былі прычынамі, якія накіравалі Каліноўскага ў юрыдычную вышэйшую ўстанову. Хто ведае, можа Каліноўскі ўжо тады рашыў бараніць пакрыўджаных у судзе. Скончыўшы свіслачанскую гімназію, Каліноўскі накіраваўся ў Маскву. Там ужо прабываў яго брат Віктар. Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Правучыўся там аднак толькі паўгода. У сувязі з прыездам Віктара ў Пецярбург, у гэты ж горад накіраваўся таксама Кастусь. У Пецярбурзе Каліноўскі паступіў ва універсітэт, які скончыў у 1860 годзе са ступенню кандыдата юрыдычных навук.

Захаваліся шматлікія дакументы, якія сцвярджаюць аб тым, што Каліноўскі, знаходзячыся ў Пецярбургскім універсітэце, многа раз звяртаўся да ўлад з просьбай звольніць яго ад абавязку аплаты за навучанне. За кожным разам Каліноўскі матываваў сваю просьбу матэрыяльнымі цяжкасцямі. Ці сапраўды Каліноўскі быў дрэнна забяспечаны фінансавымі сродкамі? Досыць цяжка адказаць на гэтае пытанне. Бацька Каліноўскага спраўна вёў сваю гаспадарку, і няма падстаў думаць, што не памагаў свайму сыну. Дык — можам думаць, што Каліноўскі, спасылаючыся на сваё ўбоства, карыстаўся прыёмам, да якога адклікаліся і адклікаюцца, мабыць, усе студэнты свету.

Займаўся аднак справамі больш сур'ёзнымі. Мы ўжо сказалі, што беларуская сялянская рэчаіснасць мела вялікі ўплыў на фармаванне юнацкіх поглядаў Каліноўскага. Калі гаворым аб пецярбургскім перыядзе жыцця Каліноўскага, дык мусім падкрэсліць, што руская грамадская рэчаіснасць мела грамаднае значэнне ў крышталізацыі ідэалаў і поглядаў нашага рэвалюцыянера. Трэба памятаць, што прабыванне Каліноўскага ў Пецярбурзе прыпала на той перыяд у гісторыі Рускай імперыі, калі наступіла шпаркае пашырэнне ідэй разначыннай рэвалюцыйнай дэмакратыі, якая гвалтоўнасцю і дынамікай сваёй аргументацыі раз і назаўсёды зварухнула з месца скастнеласць рускай рэчаіснасці. Чарнышэўскі, Бялінскі, Дабралюбаў, Агароў. былі тымі людзьмі, якія аказвалі ўсё большы ўплыў на інтэлек-

 

# ЦІ ВЕРЫЦЬ ЛЮДЗЯМ?

Людзі ў нас наогул вераць другім людзям. Без ніякіх засцярог і адразу. А добра гэта ці не надта? А мо і цалкам дрэнная такая бескрытычная вера кожнаму і ўсюды?

Асабліва вераць людзі на нашых вёсках. Самой мне не раз даводзілася даваць людзям такія рады: «Не трэба было так адразу давяраць. Самі ведаеце, што каб пазнаць чалавека, трэба з ім бочку солі з'есці».

А людзі нашы; мужыкі і бабы — вераць. Прыедзе, ці прыдзе хто там, захоча што купляць ці прадаваць — і гаспадар гатовы, яшчэ і паўлітра паставіць. А бяда потым вылазіць.

Задумала я напісаць пра гэта, бо вось у апошнія дні спаткаў мяне новы, падобны прыклад. Іду вуліцай адной невялікай вёсачкі ў Беластоцкім павеце, а з поля бяжыць чалавек. Кліча, махае рукамі, каб затрымацца. А потым расказвае такую гісторыю: тры гаспадары з яго вёскі Г. (у тым ліку і ён сам) сабралі з палёў каменні і вывезлі бліжэй дарогі, каб прадаць іх. Купец знайшоўся. Быў гэта дарожны майстар, які нейкі час круціўся па вёсцы, бо будавалася там дарога. Дарожны майстар выказаў жаданне купіць каменні. Гаспадары паставілі гарэлку, усе разам выпілі. Дагавор быў заключаны. Дарожны майстар пагрузіў каменні на машыны і паехаў. Вартасць каменняў дасягала некалькі тысяч злотых. «Пісаў, — кажа мой субяседнік, — нейкія квіты, але іх не даў гаспадарам». Каменні прадаў недзе ў Навасадах каля Гайнаўкі, але грошай за яго мае гаспадары з вёскі Г. ніколі не бачылі. Так як не бачылі потым і самога дарожнага майстра.

І што з таго, што тры гаспадары даведаліся потым, кім быў іх купец, дзе жыве і дзе працуе. Доказу ніякага яго віны не маюць.

«Судзіцеся», — параілі ім у павеце. — Ёсць сведкі, — інфармуе гаспадар, але я зусім непераканана, ці будуць яны судзіцца. Столькі валакіты з гэтым па судах аж у Беластоку!

«Разумею, — кажу, — вас, але не магу памагчы». А ён: «А вы хоць шмарніце гэта ў газету, няхай чытаюць!»

Добрай выдалася мне гэтая рада. Шмарнула вось і паўтараю: верыць трэба не спяшаючыся. *Вера Лейчук*

# Больш як 100 год

Ёсць на Беласточчыне шмат людзей, якія дажываюць да глыбокай старасці і чуюцца адносна добра. Прывяду тут некалькі прыкладаў з ГРН у Гарадку.

У маленькай лясной вёсачцы, якую завуць Каралеўскае Стойла, жывуць дзве старэнькія бабулі. Надзя Цішэўская пражыла ўжо 95 год. А зноў Марыі Шарамеце зараз 107 гадоў. Нарадзілася яна ў 1865 годзе. Чуецца даволі добра. Падчас сямейнай бяседы нават любіць кульнуць чарачку чыстай.

15 верасня г.г. жыхару вёскі Дзярнякова, Вінцуку Лукошуку споўнілася 100 год. Як сцвярджаюць працаўнікі ГРН у Гарадку, не так даўно прыходзіў ён сюды ўладзіць нейкую справу. Значыць, на гэтыя гады, здароўе яшчэ служыць добра.

Да старэйшых людзей гэтай мясцовасці залічаецца таксама Сцяпан Яроцкі з Гарадка, якому ўжо 90 год.

Варта адзначыць яшчэ адну старэйшую пару. Марыя Дэц і Адольф Дэц пражылі разам 50 год. 1 кастрычніка была ў іх у доме вялікая сямейная ўрачыстасць. Адбыўся традыцыйны «залаты» шлюб, на якім сабраліся дарослыя дзеці і ўнукі. (мх)

# ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, пад яблынькай, пад салодзенькай*
*Седзіць галубок да й з галубанькай.*
*Седзіць галубок да й з галубанькай.*
*Ані сідзелі, любаваліся —*
*Правымі крыльцамі абнімаліся.*
*Правымі крыльцамі абнімаліся.*
*Прылецеў арол з-пад цёмнай хмары —*
*Забіў галубка з любімай пары.*
*Забіў галубка з любімай пары.*
*А галубаньку ўзяў за жонаньку,*
*Та й павёў іёй да пакоіку.*
*Та й павёў іёй да пакоіку.*
*Даў он ей есці ярэй пшэніцы,*
*Даў он ей піці чыстай вадзіцы.*
*Даў он ей піці чыстай вадзіцы.*
*Ана ні піла і ні клявала —*
*Усё й а галубку та й сумавала.*
*Усё й а галубку та й сумавала.*

Ад Яўгеніі Чаховіч, 1905 г. нараджэння, вёска Кнышэвічы, грамадская рада Бабікі, Сакольскі павет, запісаў 7 чэрвеня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# ТРЫ НАПРАМКІ

21 кастрычніка г.г. у Беластоку адбудзецца XI з'езд ВЗГС. Беластоцкі ВЗГС аб'ядноўвае 82 гмінныя спулдзельні, 2 павятовыя і рэяновыя спулдзельні, 30 спулдзельняў здароўя, 2 спулдзельні будаўніцтва і прадукцыі будаўляных матэрыялаў, чатыры спулдзельчыя міжпавятовыя склады, 1 ваяводскую спулдзельню вясковага транспарту, а таксама дзесяць ПЗГС-аў і 3 РЗГС-ы.

Так выглядае з боку лікаў і цыфр спулдзельчасць, якая ў 1973 годзе будзе святкаваць 25-ую гадавіну свайго існавання, спулдзельчасць, якая з'яўляецца найвялікшай спулдзельчай арганізацыяй у Польшчы і адной з найвялікшых у свеце.

*

Служэбная і арганізатарская роля вясковай спулдзельчасці вельмі ўзрасла ў апошні час. Можна сказаць, што інтэнсіфікацыя, а за тым і спецыялізацыя ў сельскай гаспадарцы завужваюць ролю гаспадара-прадуцэнта. Не мае ён часу на тое, каб вазіцца па рынках са збожжам, бульбай, ці жывёлай і прадаваць. Ён, гаспадар, павінен прадукаваць, а ролю «таргоўшчыка» (прымаючага і пастаўляючага) павінен адыгрываць хтосьці іншы.

Апошнія пастановы партыі і ўрада аб адмене абавязковых паставак збожжа, бульбы і мяса многае змянілі ў сельскай гаспадарцы, а перш за ўсё стварылі сітуацыю, дзе вясковая спулдзельчасць павінна адыгрываць сваю ролю лепш, хутчэй і па-новаму.

Каб добра выконваць сваю ролю, спулдзельчасць вясковага гандлю будзе развіваць тры напрамкі дзейнасці: у галіне інвестыцый, у галіне развіцця гандлёвай сеткі і ў галіне оптавага гандлю (гурту). Гэтыя тры справы складаюць праграму развіцця вясковага гандлю ў найбліжэйшай пяцігодцы.

Стварыць праграму інвестыцый не цяжка. Цяжкасці найчасцей паяўляюцца ў час іх рэалізацыі. Каб забяспечыць інвестыцыйны план, неабходна стварыць правільнае забеспячэнне патрэбнымі матэрыяламі. У гэтай галіне многа трэба змяніць. Многа — гэта не абазначае, што даражэй.

Дагэтуль пры ПЗГС-ах дзейнічае 13 будаўляных прадпрыемстваў, т. зв. ЗУРБ-аў. Будавалі яны крамы, склады і базы вясковай спулдзельчасці. Кожная з гэтых будаўляных адзінак на свой спосаб здабывала патрэбныя будаўляныя матэрыялы. Часта здаралася так, што інвестыцыі нельга было закончыць толькі з прычыны недахопу руркі да каналізацыі ці ацяплення. Такая сітуацыя паўстала прынамсі з некалькіх прычын. Будаўнікі ў апошні момант даведаліся аб патрэбе тых ці іншых элементаў. Пачыналі ездзіць па Польшчы ў пошуках і часта не знаходзілі. А калі ўжо знайшлі патрэбную трубу, то аказвалася, што ім не хацелі прадаць такой малой колькасці. Проста малыя ЗУРБ-ы не маглі быць гандлёвымі партнёрамі вялікіх фірм.

Каб ліквідаваць такую сітуацыю, пачынаючы ад 1973 г. будзе створан ваяводскі склад, які будзе забяспечваць патрэбнымі матэрыяламі ўсе ЗУРБ-ы ў ваяводстве. І трэба ведаць, што такая рэалізацыя не толькі павялічыць выдаткі, але будзе каштаваць на 80 тыс. злотых менш, чым было дагэтуль. Зрэшты не найважнейшы тут прыбытак, але факт, што наступіць павелічэнне эфектыўнасці.

Забеспячэнне выканання інвестыцыйнага плана можна мець тады, калі вядома, хто будзе будаваць. ВЗГС, не чакаючы чужых будаўляных фірм, пастанавіў стварыць свае будаўляныя прадпрыемствы. На аснове добра працуючых ЗУРБ-аў, у пяці паветах будуць створаны будаўляна-мантажныя прадпрыемствы. Апрача гэтага, пры кожным ПЗГС-е будуць дзейнічаць будаўляна-рамонтныя брыгады. Рамонтныя брыгады будуць створаны пры кожнай ГС. Гэта б поўнасцю забяспечыла выкананне планаваных інвестыцый. Справа гэта вельмі істотная, паколькі кіраўніцтва вясковага гандлю плануе будаваць, не звяртаючыся да вялікіх будаўляных фірм, а сваімі сіламі. Але трэба ж ведаць, што перад нашымі будаўлянымі фірмамі стаіць вялікае заданне як у галіне пабудовы вялікай колькасці памяшканняў, так і будовы вялікіх агульнаваяводскіх інвестыцый.

Шмат павінна змяніцца ў развіцці гандлю. Павелічэнне яго заданняў звязана з павелічэннем сельскагаспадарчай прадукцыі, а павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі павінна быць у нашым ваяводстве большае, чым сярэдняя ў краіне ў бягучай пяцігодцы. Узрост прадукцыі — гэта павелічэнне даходаў гаспадароў. Гандаль павінен зрабіць усё, каб не было такіх выпадкаў, што гаспадар не адчувае патрэбы павялічваць сельскагаспадарчую прадукцыю. Гаспадар павінен хацець павялічваць прадукцыю, каб мець грошы, бо на рынку (у крамах і на складах) ёсць тавары, якія ён канешне хацеў бы купіць.

*А. Карпюк*

# ПІСЬМАНОСЦЫ

Лісты, тэлеграмы, тэлефоны, паведамленні розных устаноў, паштовыя перасылкі, падпіска на газету... Дзякуючы працаўнікам пошты, дзякуючы іх адказнай і нялёгкай працы наладжваюцца цесныя сувязі паміж людзьмі. І бадай што не знайсці чалавека, які б не карыстаўся паслугамі пошты.

У Гайнаўскім павеце сетка паштовых устаноў разбудавана даволі добра. Праўда, не заўсёды пошта знаходзіцца ва ўласным будынку. Многія змяшчаюцца ў сялянскіх хатах. Пошта ў вёсцы Ласінка, якую ўзначальвае Пётр Нігерэвіч, таксама знаходзіцца ў прыватным, але вельмі добрым памяшканні. У мінулым годзе пошта гэта па сваёй працы займала другое месца ў павеце. А раней два гады па чарзе была на першым месцы. У гэтым годзе падпісчыкаў газет і часопісаў налічваецца тут цяпер 545. У тым ліку 149 падпісчыкаў «Нівы», 91 — «Газеты Беластоцкай», 77 — «Грамады Рольнік Польскі», 40 — «Пшыяцюлкі», 34 — «Хлопскай Дарогі», 22 — «Свершчыкаў», 16 — «Аграхіміі», 15 — «Спулдзельні прадукцыйнай», 10 — «Глосу Научыцельскага», 5 — «Кабеты і жыця» і па некалькі іншых часопісаў.

Галоўнымі прапагандыстамі друку, а таксама яго актыўнымі распаўсюджвальнікамі з'яўляюцца менавіта пісьманосцы Мікалай Каўнер, Аляксандр Давідзюк і Іван Белавежац. Шмат радасці нясуць яны людзям. Тут і прыемнае салдацкае пісьмо ад сына, паведамленне дачкі-студэнткі пра паспяховае здаванне экзаменаў, ды ці мала што яшчэ! А бывае, што пісьманосцу даводзіцца быць сведкам сумных навін. І магчыма таму, што гэтым людзям даводзіцца і суцяшаць і абнадзейваць, дзяліць добрае і непрыемнае, гэтыя людзі заўсёды чулыя, спагадлівыя, і часта можна пачуць, што сяляне называюць іх сваімі лепшымі сябрамі.

Адным са старэйшых пісьманосцаў у Ласінцы з'яўляецца Іван Белавежац. Працуе ён на гэтай пасадзе ўжо 19 год. Штодзённа аб'язджае больш 30 кіламетраў. Да яго абслугі належаць наступныя вёскі: Ласінка, Кутавая, Забалоцце, Лапухоўка, Камень, Баякоўшчына, Катлоўка і Навіны. Добра ён знае ўсіх людзей гэтых вёсак, іх справы, радасці і клопаты. І таму бывае часта іх дарадчыкам. Не злічыш, колькі яму выказана падзякі, колькі сказана добрых слоў. Паважаюць яго людзі за ветлівасць, стараннасць. Не было такога выпадку, каб гэты сціплы працаўнік пошты своечасова не ўручыў адрасату пісьмо, газету і наш часопіс «Ніву». Нездарма і дырэктар павятовай гайнаўскай пошты Мікалай Суліма добрую аб ім мае апінію. Іван Белавежац намагаецца, каб чытачоў роднага часопіса было як найбольш. Падпісчыкаў «Нівы» ў яго раёне налічваецца больш 50.

З ім цікава пагаварыць, бо прыйшлося яму многае перажыць на прымусовых работах у Германіі. Пасля вызвалення адразу ўступіў ён у Савецкую Армію і ваяваў пад Кенінгсбергам. Ад 1953 года Іван Белавежац з'яўляецца членам ПАРП. Свядомы сваіх абавязкаў, выконвае іх сумленна, салідна і з'яўляецца прыкладам для многіх паштальёнаў.

*Міхась Хмялеўскі*



*Іван Белавежац у час працы.*

туальныя цэнтры краіны. Іх погляды хутка пашыраліся, ахопліваючы ўсё большыя групы людзей. А асабліва вялікі ўплыў на рускае жыццё меў Аляксандр Герцэн, які знаходзіўся ў эміграцыі. Па імперыі нават кружыў анекдот, у якім гаварылася, што невядома, хто кіруе Расіяй — Аляксандр II ці Аляксандр Герцэн. Гаворачы аб крысталізацыі поглядаў К. Каліноўскага, мы не можам абмінуць уплыву на яго польскай Пецярбургскай калоніі, у якой многа было студэнтаў, вайсковых і рабочых. Палякаў ніколі не пакідала думка аб антыцарскім паўстанні. Думка гэта сталася пуцяводнай зоркай у думках і будучай практыцы Каліноўскага. Даследуючы працэс фармавання ідэалогіі Каліноўскага, не можам абыйсці таксама заходнееўрапейскага ўплыву. Заходняя Еўропа, а перш за ўсё Францыя, ад упадку Напалеона была не толькі цэнтрам перадавой думкі, але і рэвалюцыйнай практыкі. Рэвалюцыйныя зрывы, Вясна народаў, падтрымка польскага паўстання ў 1831 годзе — усё гэта не магло не прымушаць патэнцыяльных рэвалюцыянераў у Польшчы, Беларусі і Расіі звяртаць свае вочы на захад. Сярод гэтых людзей быў, несумненна, і Каліноўскі.



 



Чалавек, які ўпершыню трапіў у пасёлак Верцялішкі Гродзенскага раёна, міжволі засумняваецца: ці не горад гэта. Двухпавярховыя жылыя дамы, цудоўны Палац культуры, гандлёвы цэнтр, адміністрацыйныя будынкі, асфальт, кветкі, зелень... Так выглядае сёння цэнтр вядомага на ўсю Беларусь калгаса «Прагрэс». Жывуць у гэтых дамах цудоўныя людзі, якія сваёй няспыннай працай з дня ў дзень умацоўваюць эканоміку гаспадаркі.

За лепшую планіроўку і архітэктурнае афармленне пасёлка аўтарам праекта прысуджана Дзяржаўная прэмія Саюза ССР.

На здымку: жылыя дамы калгаснікаў на Юбілейнай вуліцы пасёлка Верцялішкі.

*Фота Я. Крайчанкі*

## Карэспандэнцыя з Гродна

### Гадавіна „Навагрудка"

У снежні 1970 года ў фінскім горадзе Турку быў спушчаны на ваду акіянскі цеплаход «Навагрудак». І вось закончаны першы год вялікага плавання. За 365 дзён марскі прыгажун пабываў у Аўстраліі і на Кубе, у партах Афрыкі і Еўропы. У час рэйса з Туніса ў порт Шчэцін у Польшчы экіпаж урачыста адзначыў традыцыйнае карабельнае свята — першую гадавіну плавання. Закончыў свой далёкі рэйс «Навагрудак» у заходнегерманскім порце Гамбургу. Тут ён быў нагружаны, пасля чаго дадаставіў тавары ў порт сваёй прыпіскі — Ленінград.

З борта цеплахода «Навагрудак» атрымана тэлеграма, у якой капітан карабля В. Конанаў паведамляе, што «Навагрудак» прыбыў у фінскі порт Турку, адкуль пачыналася эпапея цеплахода. Тут экіпаж разам з фінскімі рамонтнікамі цэлы месяц «лячыў» свой карабель. І вось ён ізноў прышвартаваўся да роднай неўскай гавані. У бліжэйшыя дні цеплаход прыме новы груз і зноў выйдзе ў вялікае плаванне.

*«Гродзенская Праўда»*



Завод «Лідсельмаш» — адно з буйнейшых прадпрыемстваў у Гродзенскай вобласці. Тут выпускаюцца бульбаўборачныя і бацвіннеўборачныя машыны. Прадукцыя гэтага прадпрыемства добра вядомая ва ўсіх рэспубліках савецкай краіны, транспартуецца яна ў краіны народнай дэмакратыі, пастаўляецца ў Канаду, Афрыку і іншыя аддаленыя краіны свету.

На здымку: на завадскім двары «Лідсельмаша» ідзе разгрузка бацвіннеўборачных машын, якія накіроўваюцца ў краіны народнай дэмакратыі.

*Фота В. Косціна*

## Куток гаспадыні

### Што рабіць, каб добра зварыць

#### ЯБЛЫКІ

З садавіны найчасцей у нашых вёсках спажываюцца яблыкі. У залежнасці ад гатунку яблыкаў — ад іх формы, велічыні, колеру, смаку і запаху — па-рознаму яны даспяваюць і трываласць яблыкаў розная. Да найбольш распаўсюджаных гатункаў і найбольш багатых вітамінам С адносяцца антонаўкі і цітоўкі. Іншыя гатункі не маюць столькі вітаміна С, аднак ёсць у іх цукар, квасы, мінеральныя солі, а ўсё гэта таксама вельмі каштоўнае для арганізма чалавека. Таму неабходна спажываць як найбольш яблыкаў у розных патравах.

Найчасцей яблыкі ядуць сырыя. Тады перад падачай неабходна іх дакладна памыць, асабліва, калі сады спырскваліся хімічнымі прэпаратамі. Яблыкі для малых дзяцей і старэйшых людзей трэба было б абабраць нержавеючым нажом, стараючыся знімаць скурку вельмі тонеька, паколькі пад скуркай яблыка знаходзіцца найбольш вітамінаў.

Добрыя яблыкі, паложаныя на талерку або ў прыгожы кош, цудоўна ўпрыгожваюць кожны стол і таму могуць падавацца пры розных нагодах. Калі мы падаем яблыкі гасцям, неабходна для кожнага з седзячых за сталом падаць дэсертную талерачку і нож. Нож, магчыма, і не будзе ўжыты, але павінен быць пададзены.

Яблыкі з'яўляюцца неабходным дадаткам да другога снедання, якое мы даем дзецям у школу.

Кіслыя яблыкі з'яўляюцца дасканалым дадаткам да амаль усіх салатаў з гароднiны. Трэба іх дадаваць у апошнюю хвіліну, перад тым як вымешваем салат з соусам, паколькі яблыкі хутка цямнеюць.

З яблыкаў можна рабіць шмат страў. Можна з іх рабіць шмат чаго на зіму. Сёння мы падамо, як зрабіць можна яблыкі на зіму, а ў наступным нумары раскажам аб некаторых патравах з яблыкамі.

#### ПЕРАЦЁР З ЯБЛЫКАЎ

Памытыя яблыкі палажыць на бляхі, вылажаныя пергаментнай паперай, спячы ў не вельмі гарачай духоўцы. Выняўшы яблыкі з духоўкі, гарачымі працерці праз густое нейлонавае сіта. Перацёр накладаць у слоікі-вэкі, пакідаючы каля 1 см вольнага месца. Слоікі закрыць і пастэрызаваць мінут 20.

Атрыманы перацёр з яблыкаў можна ўжываць зімою на яблычны суп, падаваць у якасці трэцяга блюда, а таксама рабіць з ім пірог-шарлотку.

Можна перацёр зрабіць з развараных яблыкаў, асабліва, калі яблыкі бываюць з рабакамі ці абабітыя і трэба выразаць з іх пашкоджаную частку. Тады яблыкі разварваюць з мінімальнай колькасцю вады (8—10% вагі яблыкаў).

*Гаспадыня*




### 3. РЭЗІДЭНТ

Тульчынскаму было зразумела, што яму не ўцячы ад пагоні. Рана, якая не зажыла з мінулага задання, ужо сачылася крывёй, штаніна прыліпала да сцягна... Праклятая рана. Яна ледзь было не перашкодзіла яму вылецець у Германію. Ён уцёк са шпіталя ў Мендзыжэцы, употай, падманваючы ўрачоў сваёй часці, рабіў перавязкі, прысыпаў рану стрэптацыдам.

Пакінуўшы праследвальнікаў за рогам Берлінштрасе, ён закінуў свой капялюш за нейкі плот, падняў каўнер паліто, дастаў пачак цыгарэт «Юнона», закурыў і павольна пакрочыў насустрач натоўпу, што вынырнуў з-за вугла...

Праз секунду яго акружылі. Нейкі фельдфебель пасвяціў яму ў твар блакітным промнем ліхтарыка і крыкнуў, задыхаючыся:

— Аўсвайс!

— Дэзерціраў ловіце? — спытаў Тульчынскі, сунуўшы руку за пазуху.

— Сабак для скуралупні... Шнэль!

— Вы напэўна шукаеце чалавека, які толькі што прабег міма мяне, — сказаў Тульчынскі на дрэннай нямецкай мове, стрымліваючы дыханне.

— Усходні рабочы? — пацікавіўся фельдфебель, акідаючы Тульчынскага падазроным позіркам.

— Айн мамент. Вось дакументы.

Натоўп паімчаўся міма. З ім засталіся толькі трое — фельдфебель і двое ў цывільным адзенні, з нарукаўнымі павязкамі фольксштурмаўцаў.

— Шнэль!

Тульчынскі дастаў нарэшце з унутранай кішэні пінжака тоўсты скураны бумажнік, фельдфебель вырваў у яго бумажнік з рук, хутка разгарнуў персонен-аўсвайс, пасведчанне фольксдойчу Эдмунду Тульчынскаму.

— А начны пропуск?

Тульчынскі дастаў з кішэні камізэлькі нікелевы авальны жэтон. Убачыўшы жэтон супрацоўніка СД, фельдфебель вярнуў бумажнік Тульчынскаму і, казырнуўшы ветліва, прагаварыў:

— Даруйце! Мы шукаем савецкіх парашутыстаў. Яны спрабавалі ўзарваць штаб арміі!..

Фельдфебель і фольксштурмаўцы пабеглі за натоўпам, пакінуўшы Тульчынскага аднаго. Ён павёў рукой па ўспацелым ілбе, аддыхаўся і пайшоў на кватэру фраў Зінгер, дзе разведчыкі павінны былі сабрацца пасля аперацыі.

Хутка-хутка скончыцца гэта апошняе, самае цяжкае заданне. Ніколі так цяжка не было савецкаму разведчыку, як тут, у Германіі, у гэтую апошнюю гнілую нямецкую зіму. Падтрымлівала толькі адно — пачуццё непарыўнай сувязі з далёкай Радзімай.

Каменныя кварталы дамоў, каменныя прасекі вуліц і паляны плошчаў. Памяць аб каменным лесе, як памяць аб страшэнным сне, ніколі не згладзіцца... Стук у дзверы і начныя праверкі. Машына, што рэзка затармазіла за акном. Занадта пільны позірк незнаёмца ў трамваі. Раптоўны візіт блоклейтэра...

Тульчынскі адчыніў дзверы сваім ключом. У пярэдняй ён не ўбачыў двух чамаданаў ля вешалкі: гэта азначала, што фраў Зінгер з маленькім Паульхенам у бамбасховішчы.

Доўга прастаяў ён ля акна, прыслухоўваючыся да страляніны ў прадмесці горада. Неба над горадам было барвова-карычневае.

Ні Сяргей, ні Кнопка так і не прыйшлі. На досвітку страляніна разгарэлася з новай сілай, над горадам заракаталі савецкія бамбардзіроўшчыкі. Кватэра фраў Зінгер напоўнілася гулам. Тульчынскаму здалося, што быццам чагосьці не хапае ў звыклым шуме бамбёжкі. Ну, вядома! На пунктах проціпаветранай абароны ўпершыню маўчалі сірэны...

Шалёна загрукатала чатырохствольная зенітка на суседняй вуліцы. Бамбардзіроўшчык ішоў у піке. «Здаецца, я дарэмна не спусціўся ў сховішча, — падумаў Тульчынскі, адскокваючы ад акна. — Гэта Сярожка Казубоўскі нізавошта не хацеў ні розумам, ні сэрцам паверыць, што нам, савецкім разведчыкам, як і немцам, пагражаюць савецкія бомбы і снарады». У тую ж секунду яму здалося, што паветра ў пакоі здэтаніравала, узарвалася. Здрыгануўся падмурак дома. Гарачая, пругкая хваля дыму, чаду, калючага пылу ўдарыла яму ў твар.

